*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 76 (1141)

Чацвер, 26 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер усходні, слабы. Тэмпература паветра ў Гродне — +9...+16, Брэсце — +15...+17, Мінску, Віцебску — +16...+18, Гомелі, Магілёве — +17...+19.

У наступныя двое сутак месцамі, пераважна па ўсходзе кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/с. Тэмпература паветра 27-га ўначы — +5...+10, удзень — +13...+18, 28-га ўначы — +3...+8, удзень +15...+20.



# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ-2001

**У гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія фашысты знішчылі на беларускай зямлі 619 вёсак разам з жыхарамі.**

**Пасля Чарнобылю краіна страціла 485 вёсак і пасёлкаў: 70 з іх ужо назаўжды пахаваны ў зямлі.**

**У часы вайны загінуў кожны чацвёрты беларус.**

**СЁННЯ КОЖНЫ ПЯТЫ ЖЫВЕ НА ЗАБРУДЖАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ.**

**ГЭТА 2,1 МІЛЬЁНА ЧАЛАВЕК, З ІХ — 700.000 ДЗЯЦЕЙ.**



## Колокол Нагасаки

26 апреля в 12.00 по местному времени колокола кафедрального собора Ураками в Нагасаки начнут звонить в память о всех жертвах самой масштабной техногенной катастрофы XX века — аварии на Чернобыльской АЭС.

Многие люди знают, что копия одного из колоколов храма Ураками привезена в Минск и в сентябре прошлого года была установлена и освящена возле костела св.Сымона и св.Елены. В 12.00 26 апреля этот колокол продолжит печальную эстафету, начатую в Нагасаки. А через 8 часов в полдень по местному времени колокола кафедрального собора Сен-Пола в Миннесоте начнут звонить в память о Чернобыле. Сен-Пол — город-побратим Нагасаки.

В 12.00 по московскому времени в парке им.Академика Сахарова в Санкт-Петербурге, где также установлен колокол Нагасаки, начнется митинг, и этот колокол будет звонить два часа.

В этот печальный для всех нас день будут звонить колокола в Ирландии, Техасе, Сиднее. И даже буддистские монахи в Катманду — столице Непала — отметят колокольным звоном 15-летие Чернобыля.

Мы сердечно приглашаем всех сострадающих жертвам Чернобыля — жителей и гостей Минска, иностранных граждан, дипломатов, студентов принять участие в памятной мессе, которая начнется в 12.00 возле колокола "Нагасаки" у костела св.Сымона и св.Елены и продолжится в самом костеле.

**Юрий ПОПОВ,**
**депутат Верховного Совета 12-го созыва, автор проекта "Колокол Нагасаки".**

## Будзем разам!

У Мінскі гарвыканкам была пададзена заява з просьбай даць дазвол на правядзенне 26 красавіка з 17.00 да 19.30 мерапрыемстваў, звязаных з 15-й гадавінай чарнобыльскай катастрофы.

Аўтары заявы прасілі ўлады дазволіць людзям сабрацца на плошчы Свабоды ў 17 гадзін і тут жа з 17.30 да 18.30 правесці "Гадзіну смутку", а затым прайсці да Дома ўрада, каб перадаць петыцыю па праблемах Чарнобыля.

У Мінгарвыканкаме разгледзелі заяву і прынялі рашэнне: даць дазвол на збор людзей ля Акадэміі навук і вулічнае шэсце да сумнавядомай плошчы Бангалор, дзе можа адбыцца жалобная "Гадзіна смутку".

Аўтары заявы з такім рашэннем не пагадзіліся. Як сказаў учора намеснік старшыні Грамадскага аб'яднання "БНФ "Адраджэньне" В.Сіўчык, улады, якія дапусцілі чарнобыльскую трагедыю, адняли жыццё ў многіх беларусаў. Цяпер жа ўлады адымаюць у нас права па-чалавечы правесці "Гадзіну смутку" ў цэнтры горада. Мы ўжо абвясцілі людзей, што збіраемся ў 17.00 на плошчы Свабоды...

Канфрантацыя, як кажуць, на голым месцы. А магло б і не быць.

**Мікалай КЛЯНОВІК.**

Пр. Артамона.
К. Мажэны, Марцэліны, Марыі.

ДЗЕНЬ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ

КРАСАВІК
26
ЧАЦВЕР

| | |
|---|---|
| Усход 5.44 | Маладзік 23 красавіка |
| Захад 20.32 | Усход 7.51 |
| Даўж. дня 14.48 | Захад — |



**НАВІНЫ**

### Бел-чырвона-белы сцяг на 40-метровай вышыні

**У ноч з 22 на 23 красавіка на вялізнай (больш за 40 метраў) трубе кацельнай у Радашковічах (Мінская вобласць) з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг з жалобнымі чорнымі стужкамі і прымацаванай запіскай: "Хто здыме гэты сцяг Хрыста, будзе адказваць перад Ім на тым свеце". Подпіс "Мірон, МФ". Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе "Маладога фронту".**

У першай палове дня 23 красавіка сцяг мог назіраць увесь пасёлак. Толькі ў абед гарадскім уладам нарэшце ўдалося зняць палотнішча.

**БелаПАН.**

### Травень - гэта не май

**Ганцавіцкі райвыканкам адмовіў мясцовым актывістам Свабоднага прафсаюза Леаніду Дыдышку і Мікалаю Палхоўскаму ў правядзенні 1 мая пікета пад лозунгам "За дастойны заробак і ўзровень жыцця".**

Прычынай адмовы, паводле слоў заяўнікаў, стала тое, што ў пададзенай заяўцы дата пікета была абазначана не як "1 мая", а як "1 траўня". Супрацоўнікі Ганцавіцкага райвыканкама не разглядалі гэтую заяўку, паколькі яны лічаць, што ў беларускай мове няма слова "травень".

Л.Дыдышка і М.Палхоўскі збіраюцца абскардзіць рашэнне райвыканкама праз суд. Яны сцвярджаюць, што "травень" як назва пятага месяца года шырока ўжываецца і ў недзяржаўных, і ў афіцыйных СМІ.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

### Фашысты! Прэч з горада!

**Расійскі кінарэжысёр Дзмітрый Астрахан закончыў гродзенскія здымкі новага фільма "Бабін яр", прысвечанага ваенным падзеям 1941 года ў Кіеве. Для ўдзелу ў здымках масавых сцэн у Гродне было адабрана каля тысячы чалавек. Ролю салдатаў фашысцкай Германіі выконвалі салдаты ўнутраных войскаў з часцей, што дыслацыруюцца ў Гродне.**

На тры дні старыя вуліцы горада ператварыліся ў разбітыя бомбамі яўрэйскія кварталы Кіева. На сценах былі наклееныя ўлёткі на нямецкай і ўкраінскай мовах, гродзенская вуліца Карла Маркса была перайменаваная ў вуліцу Вызвалення. Падчас здымак адбыўся забаўны выпадак. Кінааператары здымалі эпізод зачысткі фашыстамі яўрэйскага квартала, калі з будынка выбегла пажылая жанчына і пачала крычаць: "Фашысты! Як вы ўжо абрыдлі! Прэч з горада!".

За здымкі ў масавых сцэнах гродзенцы атрымалі па 3 тысячы рублёў, а за эпізадычную ролю — па 15 тысяч. З 24 красавіка Дзмітрый Астрахан плануе працягнуць здымкі фільма ў Мінску.

**Павел МАЖЭЙКА, БелаПАН.**

### "Рэгіянальная Беларусь" плануе з'езд

**У маі бягучага года плануецца правядзенне з'езда прадстаўнікоў рэгіёнаў Беларусі з мэтай кансалідацыі грамадскасці краіны вакол альтэрнатыўнага Аляксандру Лукашэнку кандыдата на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.**

Такое рашэнне было прынята падчас пасяджэння каардынацыйнай рады "Рэгіянальная Беларусь", на якім прысутнічалі прадстаўнікі рэгіянальных кааліцый грамадскіх, палітычных і прафсаюзных арганізацый з усіх абласных цэнтраў і буйных гарадоў Беларусі. Для падрыхтоўкі і правядзення з'езда ўтвораны аргкамітэт.

**Павел МАЖЭЙКА.**

# ВЫДВОРЕНИЕ

## О хамах-офицерах, путающих понятие офицерской чести с тривиальным холуйством и хамством

*На днях в Минске состоялся съезд Белорусского союза офицеров. Журналиста "Народной воли" вначале ультимативно попросили покинуть зал, а после безобразного скандала в фойе просто вышвырнули из Дома офицеров. Впрочем, обо всем по порядку.*

Официального приглашения на съезд "Народной воле" не прислали. Просто инкогнито позвонили в редакцию: мол, хотите посмотреть на цирк — милости просим.

К началу съезда я не успела. Попала в зал, наверное, минут за пятнадцать до окончания доклада председателя Белорусского союза офицеров (БСО) генерал-лейтенанта Дмитрия Иванова.

Иванов упомянул пропавшего генерала Захаренко (причем ударение в фамилии вопреки всем правилам фонетики ставил на слог "ре"). Юрий Захаренко, по мнению Иванова, пытался создать альтернативный союз военнослужащих и офицеров якобы с целью подрыва авторитета дорогого Александра Григорьевича. Посему далее звучали лозунги и выражения типа *"Всегда поддерживать пропагандистскую политику Александра Григорьевича Лукашенко! Ибо он и только он сохранит суверенитет Беларуси!", "Даешь СССР на новой основе, ибо это есть воля народа!", "Оппозиция Беларуси давно зашевелилась, они пытаются подорвать доверие народа к глубокоуважаемому Александру Григорьевичу. Свидетельство тому — недавно опубликованное в "Народной воле" заявление офицеров запаса, цель которого — заклеймить действующего президента Беларуси и водрузить в его кресло Козловского или кого-то еще. Подписавшие данное заявление — оппозиционные новобранцы. БСО категорически осуждает заявление этих отщепенцев"*. Словом, если на оппозиционных митингах обычно кричат "Жыве Беларусь!", то здесь народ был готов скандировать "Жыве Аляксандр Рыгоравіч!".

От политики генерал Иванов плавно перешел к материальным проблемам Союза и предстоящим президентским выборам: мол, нам нужна материальная основа — ни фабрик, ни газет, ни заводов, ни пароходов у нас нет и денег брать неоткуда. И тут же предложил обратиться через средства массовой информации к А.Лукашенко с просьбой выдвинуть свою кандидатуру на повторный срок.

Далее председатель контрольно-ревизионной комиссии БСО с трибуны заявил, что на данный момент, к счастью, *"усилена военно-патриотическая работа*

> **Александр Григорьевич! Поблагодарите своих офицеров, которые слепой и бесцельной любовью сжигают последние остатки того, что в этой стране называется властью.**

*БСО с молодежью, потому что во времена Шушкевича, Шарецкого и прочих Грибов нам были закрыты двери школ. Ныне картина существенно изменилась".*

На этом репортаж из зала заседания пришлось прервать. Два члена Союза, отвечающие, видимо, за вопросы безопасности и чистоту рядов присутствующих, категорично попросили меня предъявить документы, а затем удалиться из зала. Дабы не привлекать недоуменно-раздраженные взгляды офицерской публики, увлеченной очередным докладом и увидевшей в корреспонденте "Народной воли" то ли агента ЦРУ с суперсекретным шпионским оборудованием в виде диктофона, то ли чеченскую террористку на тропе войны, мне пришлось выйти из зала. В фойе я услышала буквально следующее: мол, решение не высылать приглашение для "Народной воли" принимал организационный комитет и республиканский совет БСО. Была бы нормальная газета — был бы другой разговор. А посему убирайтесь отсюда. При этом у меня из рук совершенно не по-офицерски попытались вырвать включенный диктофон. Один из тех, кто выдворял меня из зала, вспомнил постоянного автора "Народной воли" офицера Валерия Щукина — мол, мы все знаем, он подсел на западные деньги и катается как сыр в масле. Его не в тюрьму сажать надо, а на электрический стул!

Высказав все, что думают по поводу демократии в стране, президента, оппозиционной прессы и независимых журналистов в частности, офицеры-конвоиры остервенело вцепились мне в локоть и толкнули к выходу. И только один мужчина из примкнувшей к нам толпы наблюдателей попытался как-то исправить ситуацию: "Что вы делаете, это же женщина!" Остальные, видимо, "берегли честь мундира". И это при том, что, несмотря на свой немаленький рост, рядом с офицером-чистильщиком я выглядела почти дюймовочкой.

Требованиям членов БСО пришлось подчиниться. Хотя от цепких "объятий" потного охранника удалось высвободиться только перед дверью.

Никоим образом не желая очернить и опорочить весь офицерский корпус Беларуси, хочется сказать, что некоторые нафталиненые генеральские и полковничьи погоны, живущие понятиями кавалерийской атаки и советской демагогии, слегка путают понятие офицерской чести с тривиальным холуйством и хамством. После всего произошедшего хочется напрямую, как это делают теперь многие граждане, обратиться к А.Лукашенко: "Александр Григорьевич! Поблагодарите своих офицеров, которые слепой и бесцельной любовью сжигают последние остатки того, что в этой стране называется властью".

**Марина КОКТЫШ.**

**АСЦЯРОЖНА: ПРАВАКАЦЫЯ!**

## "Сенсацыі" з жоўтым адценнем

*Дзяржаўныя СМІ дружна перадалі сенсацыю: на нейкім вакзале знойдзены партфель з перадвыбарнымі дакументамі вядомага палітыка Сямёна Домаша. Там нібыта былі спісы сяброў рэспубліканскага штаба, актывістаў па зборы подпісаў для вылучэння магчымага кандыдата ў прэзідэнты, назіральнікаў. А гэта ёсць не што іншае, як факт пачатку прэзідэнцкай выбарчай кампаніі-2001. За такі фальстарт закон прадугледжвае суровыя меры.*

Сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання, каардынатар Каардынацыйнай Рады "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш патлумачыў, што асобы са спецорганаў, адказныя за арганізацыю правакацый, прыдумаюць і не такое. Па-першае, не існуе на сённяшні дзень ніякіх дакументаў, якія могуць з'яўляцца сведчаннем правядзення выбарчай кампаніі. Па-другое, ёсць звесткі, што знойдзеныя дакументы — гэта подпісы грамадзян, якія выказаліся за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра падчас правядзення альтэрнатыўных выбараў 1999 года.

Што да інфармацыі пра гродзенскага палітыка ў адной з нібыта знойдзеных папер, то гэта можа быць передрук са старонкі ў Інтэрнеце і ніякіх адносін да выбараў-2001 не мае. Сёння шмат выданняў аналізуюць шанцы розных магчымых кандыдатаў у прэзідэнты.

Відавочна адно — назіраецца актывізацыя правакацый і падтасовак фактаў з боку ўлады. Прыклад таму — паведамленне тэлебачання аб скрадзенай машыне М.Чыгіра, якая нібыта знойдзена ў Сямёна Домаша; рэгулярнае падкідванне дэзінфармацыі аб тым, што на Сямёна Домаша ў маючых адбыцца выбарах зробіць стаўку БНФ, незаконнасці набыцця Сямёнам Домашам уласнага жылля.

"Сенсацыя", створаная жоўтымі дзяржаўнымі СМІ, сведчыць пра нервовасць на верхніх паверхах беларускай улады. Менавіта пра гэта гаворыць свістапляска вакол знойдзеных (ці наўмысна падкінутых) матэрыялаў. Нешта тут балюча знаёмае з пагалоскі пра славутыя чамаданы з кампраматам...

**Антон ЛАБОВІЧ.**

Гродна.

**СКАНДАЛ**

## Фраймут Дуве адмяніў візіт у Беларусь

*Упаўнаважаны Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды сродкаў масавай інфармацыі Фраймут Дуве адмяніў свой візіт у Беларусь, прызначаны на 25—27 красавіка. Пра гэта гаворыцца ў яго заяве, распаўсюджанай сакратарыятам АБСЕ ў Вене (Аўстрыя). Па словах Фраймута Дуве, ён выказвае шкадаванне, што ўрад Беларусі, які афіцыйна вітаў гэты візіт у Мінск, адмовіў у выдачы ўязной візы старшаму дарадцу сп. Дуве, якая павінна была суправаджаць яго ў паездцы ў Беларусь.*

Паводле звестак БелаПАН, у якасці старшага дарадчыка Фраймута Дуве ў паездцы павінна была суправаджаць Даяна Моксі, якая цяпер займае гэтую пасаду, а раней працавала першым сакратарам пасольства ЗША ў Беларусі. Падчас візіту планаваліся сустрэчы дэлегацыі АБСЕ з прадстаўнікамі дзяржаўных і незалежных СМІ, а таксама беларускімі ўладамі.

Пасля кансультацый з Кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ ў Беларусі Фраймут Дуве прыняў рашэнне запрасіць групу прадстаўнікоў беларускіх незалежных СМІ ў Вену, у Бюро ўпаўнаважанага па пытаннях свабоды СМІ, з тым каб абмяняцца думкамі аб стане свабоды слова ў Беларусі, гаворыцца ў заяве ўпаўнаважанага АБСЕ.

Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Павел Латушка так пракаменціраваў заяву Фраймута Дуве: "Адмаўленне ўпаўнаважанага па пытаннях свабоды СМІ АБСЕ Фраймута Дуве прыбыць у Беларусь — гэта яго асабістая справа. Мы запрасілі яго ў Беларусь і выдалі яму ўязную візу. Ён можа прыехаць да нас, калі палічыць патрэбным і калі ў яго ўзнікне такое жаданне. Што тычыцца чыноўніка АБСЕ, старшага дарадцы ўпаўнаважанага па пытаннях свабоды СМІ Даяны Моксі, якой было адмоўлена ў візе, то каменціраваць гэтае адмаўленне мы не будзем. Я хацеў бы падкрэсліць, што гэта не звязана з яе цяперашняй дзейнасцю".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Дзе ж шпіёны?

Інфармацыя аб затрыманні 18 красавіка ў Мінску замежнага грамадзяніна з доказамі злачынства пры атрыманні сакрэтных дакументаў можа быць выдумкай, заявіў БелаПАН 23 акрэдытаваны ў Беларусі заходні дыпламат, які пажадаў захаваць ананімнасць.

Аб гэтым затрыманні 19 красавіка паведаміў Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі, сцвярджаючы, што замежнік займаўся вярбоўкай беларускіх грамадзян і зборам разведвальнай інфармацыі. Затрыманы, чыё грамадзянства спецслужбы не назвалі, бо "не імкнуцца ўскладніць адносіны Беларусі з гэтай краінай", быў нібыта змешчаны ў следчы ізалятар КДБ.

Аднак, паводле слоў дыпламата, яго пасольства кантактавала з іншымі замежнымі пасольствамі ў Беларусі, і ніводнае з іх не мела інфармацыі аб затрыманні сваіх грамадзян.

Паводле слоў прастаўніка аднаго з заходніх дабрачынных фондаў, які працаваў у Беларусі, такая выдумка можа выкарыстоўвацца ўладамі, каб нагнятаць падазронасць да замежнікаў у беларускім грамадстве напярэдадні сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

## Михаил Дражин — "король" всех заправок. Пока в Минске

Где и кем только не работал Михаил Дражин! Окончив Витебский ветеринарный институт, поднимал сельское хозяйство в ряде районов. Был на партийной работе, служил в диппредставительстве. В последнее время занимал пост губернатора Могилевской области. Подал в отставку — и на несколько месяцев остался без работы.

Говорят, предлагали возглавить Министерство сельского хозяйства — отказался. Нашел место и потеплее, и не такое хлопотное. Приказом президента концерна "Белнефтепродукты" И.Бамбизы назначен "королем", простите, генеральным директором МХП "Минскавтозаправка". К должности придан "джип" стоимостью где-то под сто тысяч долларов, за приобретение которого пришлось отдуваться его предшественнику Александру Мамчицу.

Впрочем, Михаил Владимирович Дражин не против был вернуться на старое место — в Ждановичский тепличный комбинат, но не получилось. Но он еще молод, и кто знает, может, когда-нибудь Михаил Владимирович еще вернется к выращиванию огурчиков и помидорчиков для минчан. А пока он будет заботиться о том, чтобы баки их автомобилей всегда были полны бензина.

**Антон КРАВЦОВ.**

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## С "Моторшоу" можно укатить на собственном авто

С 27 апреля по 1 мая в столичном СКА "Уручье" пройдет автомобильный праздник "Моторшоу", который обещает стать крупнейшим выставочным событием года. В экспозиции примут участие около двадцати крупнейших мировых автопроизводителей. Будут также представлены фирмы, торгующие запчастями, автомобильными маслами и другими сопутствующими товарами, связанными с автомобилями.

Приятным сюрпризом для посетителей выставки станет розыгрыш автомобиля стоимостью 6000 у.е. или такой же скидки на любую машину, представленную на "Моторшоу". Главным призом детских билетов будет самокат фирмы "Ikon" от магазина "Кеттлер-спорт".

Возрастающее значение автомобиля в современном обществе неоспоримо. Поэтому организатор выставки "Белорусская Автомобильная ассоциация" надеется, что "Моторшоу" привлечет внимание многочисленных автолюбителей и доставит им большое удовольствие.

**Татьяна КУЧИНСКАЯ.**

## Крадуць электраліній

Праваахоўныя органы Гродзенскай вобласці лічаць неабходным актывізаваць працу па папярэджанні крадзяжоў каляровых металаў з ліній электраперадачы.

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра УУС Гродзенскага аблвыканкама, колькасць крадзяжоў каляровых металаў у вобласці у апошнія месяцы павялічылася. Супрацоўнікі міліцыі звязваюць гэта з ростам сусветных цэн на каляровыя металы. Напрыклад, 20 красавіка РАУС Шчучынскага і Ваўкавыскага раёнаў узбудзілі крымінальныя справы па фактах крадзяжоў алюмініевых правадоў з ліній электраперадачы.

У прыватнасці, з абясточанай лініі электраперадачы каля вёскі Макееўцы Шчучынскага раёна на працягу лістапада 2000 — красавіка 2001 года невядомымі было скрадзена 560 метраў алюмініевага проваду. Страты, нанесеныя дзяржаве, склалі 250 тысяч рублёў. У Ваўкавыскім раёне, каля вёскі Навасёлкі, невядомыя ўкралі з электраліній алюмініевы провад на агульную суму каля 300 тысяч рублёў.

**Павел МАЖЭЙКА.**

# СТРЕЛЬБА по движущимся мишеням

*Взобравшись на крышу близлежащего детского сада, юные снайперы палили по окнам жилого дома или "отстреливали" прохожих из пневматической винтовки*

Несколько месяцев назад в меня стреляли. Темной ночью, в окно, за которым неосторожно перемещалась моя тень за жиденькой занавеской...

Из Первомайского РУВД люди в погонах появились лишь спустя два дня после моего обращения в дежурную часть. Версии обсуждались самые невероятные:

1. стреляли из моей квартиры;

2. стекло разбито камнем.

Диаметры входного и выходного отверстия явно говорили об ошибке эксперта. Да и как можно камнем проделать абсолютно четкое отверстие без разбежавшихся в стороны щупальцев и имитировать при этом звук выстрела? Мне, темному человеку, видимо, не понять.

Ладно, оставим этот злополучный "стреляющий камень" за кадром, как это сделал участковый инспектор, даже не опросив меня (как, впрочем, и когонибудь другого). Главное все-таки в деле — ответ (исх.номер МГ/8-Г-128 от 21.07.2000 г.) с извещением зама без ФИО: "По вашему заявлению ПРОВОДИЛАСЬ ПРОВЕРКА. Принятыми мерами РОЗЫСКА обнаружить неизвестных лиц, РАЗБИВШИХ стекло в форточке, не представилось возможным. Для предотвращения подобных действий в дальнейшем к вашему дому в ночное время суток будут приближены наряды роты ППСМ..."

Такая вот шутка. Только не единожды слукавил при этом зам. Ибо проверочка не проводилась и роты ППСМ напрочь отсутствовали. Имея очень нетерпеливую собаку, неоднократно вожу ее "в ночное" и не встретила за ближайшие полгода ни одной ППСМ даже на магистрали, не то что у дома.

При таком попустительстве милиции в следующий раз не пожалею оконного стекла и швырну в ответ обидчику гранату РДГ, чтобы дать возможность родному РУВД раскрыть не только личность стрелка, но и само преступление традиционно по "горячим следам"...

Такая возможность представилась уже 29 января. Вновь глубокой ночью прогремели четыре выстрела подряд по освещенному окну на уровне моей головы, так высоко кем-то оцененной...

К чести милиции, она прибыла в считанные минуты. Все остальное было не к чести... Сержант, представившийся Жаботинским (с группой спецназа), даже не взглянул на поврежденные стекла. Зато быстро поставил пострадавшей диагноз: "Больная! Надо лечиться! Ни в кого не стреляют, только в нее"!..

На просьбу осмотреть окно блеснул на мгновение фонариком и грубо бросил через плечо: "Все это я уже видел в ноябре месяце". Тут же по радиотелефону набираю дежурную часть, влетаю в квартиру, щелкаю выключателем и... получаю еще два выстрела по освещенному окну. Прошло не более 4—5 минут после позорного отступления спецназа. Возникает вопрос: почему не последовала реакция на выстрелы, если их зафиксировали даже спящие жильцы?

Второго пришествия милиции ожидала около часа. Прибыл тот же сержант. Видимо, скоропостижно изменив фамилию "Жаботинский" на "Петунин". Опять, не осмотрев новые повреждения и возможную дислокацию злоумышленника, при молчаливой поддержке спецназа (видимо, был за старшего), вел себя крайне вызывающе. Находясь "при исполнении", назвался чужой фамилией, правда, на этот раз я уже была подготовлена к подобной встрече и делала запись на диктофон "скрытой камерой" из рукава пальто. Его хамство приняла за обычную норму поведения человека такого уровня.

Под утро прибыл следователь с экспертами (как обычно, без баллиста) и заверил, что по данному факту незамедлительно будет возбуждено уголовное дело.

На следующий день по окнам прошлись еще трижды (в каждое по разу), а уголовное дело так и осталось моей несбыточной мечтой. Одиннадцать выстрелов, отверстие после одного из которых величиной с небольшое яблоко никто, кроме меня, похоже, не оценил по достоинству.

К вечеру зарвавшиеся "шутники" разошлись не на шутку и простреливали уже территорию двора (предположительно, из дома напротив). Под "огонь батареи" попали шедшие с работы граждане. Поскольку по счастливой случайности никто не пострадал, предпочли лучше перекреститься, чем заявить в милицию. Итог известен. Через десять минут была "расстреляна" квартира шестью этажами выше... И это в детское время суток.

По данному факту решила обратиться с заявлением уже к начальнику Первомайского РУВД. Но господин Пархомчик вначале указал на часы, затем на двери, послав меня... в дежурную часть. Словом, пришлось рассчитывать исключительно на свои силы.

Предприняв собственное расследование, выясняю, что в июле в одно время со мной были "расстреляны" еще две квартиры в подъезде. Об этом не мог не знать участковый Вайтехович, предприми он хоть какие-то шаги по делу... Далее вычисляю двух ценных свидетелей. Один из них видел не только кто, но и из чего стреляли. Меры приняты не были. Этой же ночью в немилость попал уже мирно стоящий во дворе автомобиль...

Пошло почти три месяца. Основной свидетель не допрошен (адрес милиции известен). Двор не осмотрен. Улики были погребены под многократным покровом растаявшего снега. Теперь даже задержанный с поличным не может быть привлечен, так как не с чем идентифицировать изъятое оружие. Нет "патронов" — нет проблем. Круг замкнулся!

Однако наши стражи порядка не подрасчитали. Я оказалась дамой настырной. После многократного штурма кабинетов милицейских начальников разного ранга и двукратного обращения к начальнику ГУВД Александру Раку вопрос сдвинулся с мертвой точки.

Оказывается, теперь подобным образом развеивают скуку местные тинейджеры. Взобравшись на крышу близлежащего детского сада, юные снайперы час от часу палили по окнам жилого дома или "отстреливали" прохожих из пневматической винтовки, которую можно приобрести на любом столичном рынке. А когда им это наскучило, обстреляли еще и продуктовый магазин, который находится рядышком с моим домом.

Однако, по словам следователя Первомайского РОВД города Минска Сергея Тимошенко, которому поручили расследование этого дела, в соответствии с нынешним законодательством, эти "детские забавы" нельзя квалифицировать как хулиганство, поскольку размер причиненного ущерба должен быть свыше 40 минималок. Разумеется, мои обстрелянные окна на такую сумму не тянут. И юные "ворошиловские стрелки" в лучшем случае отделаются лёгким испугом. В худшем — их родителей оштрафуют. Но и все это при условии, что молодчиков, держащих в ужасе с июля прошлого года целый район, найдут.

Похоже, что я и мои соседи и дальше будем находиться под чьим-то постоянным прицелом...

**Тамара ГУЛЕЗОВА, жительница Минска.**

# Паваротны пункт

## Сённяшнюю ўладу не прымае большасць

Нядаўняя паездка на радзіму мяне азадачыла і збянтэжыла. Прашу прабачэння, задача была даволі празаічная: праведаць бацькоў, зазірнуць у склеп і адбыць назад. Але пад канец я пачаў сябе адчуваць сама меней удзельнікам "адзінага палітдня". З той толькі розніцай, што ад гэтых самых удзельнікаў ніхто і не чакае пачуць нешта аб рэальным становішчы ў краіне. Ад мяне ж суразмоўцы патрабавалі праўды і толькі праўды.

Ну, скажам, за каго трэба галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах? Альбо: ці ёсць шанц змяніць існуючую ўладу? Пад "існуючай уладай" разумеўся, само сабою, Лукашэнка. Што я мог адказаць, калі сам пакуль не ведаю адказаў на гэтыя пытанні?

***

Вось Шура. Ён, так бы мовіць, нетрадыцыйны сельскі інтэлігент. У тым сэнсе, што мастак. Але не той, што малюе афішы ў Доме культуры. Ён мастак сапраўдны, аб чым сведчыць хаця б апошняя выстава, якая прайшла не дзе-небудзь, а ў Санкт-Пецярбургу. Мы з ім сустрэліся ў нашай мясцовай цырульні. Разгаварыліся.

— Ну, што там у сталіцы? Якія настроі? Ты мне скажы, апазіцыя ёсць ці не?

За каго галасаваць на выбарах, Шура яшчэ не вырашыў. Ён вырашыў пакуль адну толькі рэч: за Лукашэнку галасаваць не будзе. Ужо добра, але напалову. Больш важнай уяўляецца другая палова: кагосьці выбіраць трэба, але каго?

З гэтым — поўны туман. Справа ў тым, што газет Шура не выпісвае. Не з прынцыпу, а з-за невялікіх магчымасцей сямейнага бюджэту. Ён выкладае ў дзіцячай мастацкай школе, жонка — у сярэдняй школе. Адтуль — усе грашовыя паступленні. Ёсць, канешне, участак, гаспадарка, без іх сям'я не пражыла б, як і ўсе сем'і з сельскай мясцовасці.

Афіцыйнага друку Шура не прызнае, БТ не глядзіць, а друк апазіцыйны — дарагаваты. Так што атрымліваецца інфармацыйны вакуум. У пасёлку няма нават кіёску "Белпошты". Быў некалі, а потым закрылі: нерэнтабельна. Скажам, прозвішча Домаша Шуру нічога не кажа. Ён пра яго, канешне, чуў, але не больш таго. Можа быць, гэта і ёсць "адміністрацыйны рэсурс" прэзідэнта?

Пазбавіць правінцыю інфармацыі. Гэта — раз. Ну, а потым вынікі выбараў "скарэкціраваць". Гэта — два. Хто паедзе назіраць за правільнасцю працэдуры выбараў у далёкі пасёлак?

— За каго б я ні прагаласаваў, усё роўна акажацца, што — за Лукашэнку, — заключае Шура.

***

У галоўнага агранома аднаго з калгасаў Ігар П. (не хочацца чалавека падстаўляць, усё ж пры пасадзе, абыдземся імем) мы заспрачаліся "за сельскую гаспадарку". Ігару гадоў пад сорак. Некалі гаспадарка грымела, цяпер — сумна шэпча. Напрыклад, аб тым, што сеяць трэба, а гаручага няма. Што мінеральных угнаенняў ёсць толькі палова ад патрэбнага, а арганікі вывезлі таксама палову. Што калі гаручае пашчасціць купіць (грошай на гэта няма), то прыйдзецца рабіць усё адразу: вазіць гной, араць, сеяць і г.д.

— Ну скажы мне, які заходні фермер стане сеяць, калі ў яго няма гаручага? Я не кажу, што гаручага па выгаднай цане, проста — гаручага?!

Ігар, між іншым, сам некалі сур'ёзна задумваўся аб "змене курсу" — былі планы стаць фермерам. Сёння ён кажа:

— У пачатку 90-х, канешне, шанцы былі. Цяпер цягнік пайшоў. Ды я не шкадую. Як уявіш, што б са мною рабілі гэтыя ваўкі...

Пад "ваўкамі", як я разумею, у Ігара праходзяць чыноўнікі раённага ўзроўню. Ён, дарэчы, з'яўляецца падпісчыкам "Народнай волі", аб чым папярэдзіў. З гэтага моманту размова пайшла больш шчыра. Таму пытанне сваё я паставіў смела:

— Хто вінаваты?

— А ты не ведаеш! Хто ў нас адказвае нават за якасць, я прашу прабачэння, г...?

— Тады так: што рабіць?

— Не галасаваць за яго!

— Але за каго?

— Не ведаю...

Ігар пачынае тлумачыць, што не бачыў, не чытаў праграмы, перш за ўсё эканамічнай праграмы, ніводнага кандыдата ў прэзідэнты. Я яго разумею, ён, так бы мовіць, чалавек справы, практык, рэаліст. Ён павінен ведаць у першую чаргу, што, дзе, па чым, якую выгаду будзе мець ён, чалавек, які нешта выробляе і з гэтага жыве. Ігара не пераконваюць агульныя дэкларацыі аб дэмакратыі, свабодзе слова, эканамічнай свабодзе. Яму патрэбна чыстая канкрэтыка. Паўтаруся: што і па чым? І любы чалавек, які мае непасрэднае дачыненне да эканомікі, такое пытанне да магчымых кандыдатаў ставіць.

Мы зноў сутыкаемся ўсё з той жа праблемай інфармацыйнага вакууму. З кім бы я дома ні гаварыў, нагадаю, у глухой правінцыі, ніхто, падкрэслю, ніхто не выказаўся за існуючы парадак, толькі — супраць. Гэта "супраць", канешне, мае свае адценні. Хтосьці супраць росту цэн, хтосьці супраць таго, што даражэе гарэлка. Але сённяшнюю ўладу ўжо не прымае б о л ь ш а с ц ь. У мяне складваецца даволі цвёрдае ўражанне, што мы з вамі прыйшлі да чарговага паваротнага пункту.

— Разумееш, калі гаспадарцы не даюць грошы за тое, што яна зарабіла, а пералічваюць немаведама каму, то што далей? "Ваенны камунізм"?!

Ігар мае на ўвазе сённяшні парадак разлікаў з калгасамі-саўгасамі, калі належачыя ім надбаўкі за тую ці іншую прадукцыю ў гаспадарку не трапляюць. А асядаюць на рахунках шматлікіх пастаўшчыкоў: ці то мінеральных угнаенняў, ці то нафтапрадуктаў. Сапраўды, нагадвае "ваенны камунізм": загадана абыходзіцца без грошай.

***

Я добра памятаю той час, калі сказаць што-небудзь супраць "усенародна абранага" ў дызель-цягніку на Гомель ці з Гомеля было проста небяспечна. Маглі пабіць. І не сказаць, што гэта так даўно было. Гады з два, не больш. Але настрой рэзка змяніўся.

Я таксама добра памятаю атмасферу эйфарыі ў нашым пасёлку адразу пасля выбараў 94-га года: "Вусаты перамог!". Я тады пытаў знаёмых: "Ну і што з таго?". Нічога разумнага не пачуў, апрача: "А хай ім!". Іншымі словамі, "мы не столькі з ім, колькі супраць іх". Супраць Кебіча.

Едучы па справах у Гомель, цяпер я пачуў наступнае:

— Я сама не буду за яго галасаваць! Дзецям забараніла! Унукам (у мяне ўнукі) таксама! За д'ябла, толькі не за яго!

Крычала, не гаварыла, а крычала нейкая жанчына далёка за 60 год. Аўдыторыя слухала са спачуваннем і ніхто не пярэчыў. Уявіць сабе гэта раней было цяжкавата. Так заўсёды ў натоўпе: нехта скажа казачныя словы, і яны тут жа бываюць падхоплены. Пераацэньваць гэта не варта, але і недаацэньваць — таксама. Як гаворыцца, "Fox populi", голас народа. А вось да чаго гэта прывядзе, яшчэ пытанне. Можа быць, зноў "мы не столькі з ім, колькі супраць яго"?

**Андрэй СЯРЖАН.**

## Аляксандр Дабравольскі хутчэй за ўсё не сустрэнецца за калючым дротам з Аляксандрам Лукашэнкам

Як ужо паведамлялі сродкі масавай інфармацыі, Аляксандр Лукашэнка запрасіў апазіцыянераў наведаць разам з ім чарнобыльскую зону. Размаўляючы з журналістамі, ён, у прыватнасці, сказаў: Я вас прашу запрасіць туды апазіцыянераў, дыпламатаў і іншых за калючы дрот, там мы з імі сустрэнемся і правядзём "Чарнобыльскі шлях". ...Там і абмяркуем гэтую праблему".

На яго прапанову адгукнуліся лідэры і актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Старшыня гэтай партыі Анатоль Лябедзька звярнуўся з пісьмом у Адміністрацыю прэзідэнта аб гатоўнасці яго паплечнікаў разам з прэзідэнтам выехаць у забруджаныя раёны.

Днямі атрыманы адтуль адказ. Загадчык аддзела па сувязям з грамадскімі аб'яднаннямі Адміністрацыі прэзідэнта В.Міхееў піша: "Паведамляем, што дэлегацыі АГП будзе аказана садзейнічанне ў паездцы па рэгіёне, які пацярпеў у выніку трагедыі на ЧАЭС, па лініі мясцовай выканаўчай улады. Просім загадзя паведаміць маршрут следавання дэлегацыі". Такім чынам, Аб'яднанай грамадзянскай партыі ветліва адмоўлена ва ўключэнні яе актывістаў у дэлегацыю Лукашэнкі. Аб сустрэчы за калючым дротам — ні слова. Вось і вер пасля гэтага заявам Аляксандра Рыгоравіча. Між тым днямі Беларускае тэлебачанне сцвярджала, што апазіцыянеры адмовіліся ехаць у забруджаныя раёны краіны. Так што нельга верыць і яго хлуслівому тэлебачанню.

Як нам паведамілі ў штаб-кватэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, іх дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні партыі Аляксандрам Дабравольскім ужо выехала ў чарнобыльскую зону. Актывісты АГП павезлі чарнобыльцам лекі, падарункі дзецям. Яны ўсё ж хацелі б сустрэцца там з А.Лукашэнкам і шчыра пагаварыць пра лёс чарнобыльцаў, лёс усёй Беларусі. Але, мабыць, да Аляксандра Рыгоравіча іх ніхто не дапусціць.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## "В Беларуси жидовским мордам — синяки от РНЕ!"

Заўжды вясёлы мой знаёмы Аляксандр Наседкін з сумам паведаў пра сваё гора. У Мінску 18 лютага па дарозе дадому ён сутыкнуўся з РНА. Два брытагаловых хлопцы са словамі: "В Беларусі жидовским мордам — синяки от РНЕ!" метадычна адпрацоўвалі на ім прыёмы боксу і каратэ. Калі нацысты наталілі смагу крыві і зніклі, Аляксандр папоўз дахаты...

У міліцыю вырашыў не звяртацца. Усё роўна бессэнсоўна. Раніцай сябры адвезлі яго ў Віцебск да родных. Але без медыцынскай дапамогі ачуняць яму не ўдалося. "Синяки от РНЕ" апынуліся такімі значнымі пашкоджаннямі, што Аляксандр да гэтай пары знаходзіцца ў шпіталі.

**Алесь САВЯНКОЎ.**

ЗДАРЭННІ

## Выбух на газаправодзе "Гомель — Мінск"

23 красавіка ў 6.30 у двух кіламетрах ад вёскі Рудзенка Жлобінскага раёна адбыўся прарыў газаправода "Гомель—Мінск" дыяметрам 700 міліметраў, праходзячага пад зямлёй на глыбіні 11,2 метра, з наступным выбухам і гарэннем.

У выніку выбуху газаправод разбураны на працягу 200 метраў, утварылася варонка дыяметрам 40 і глыбінёй 5 метраў. Для ліквідацыі аварыі ў 6.54 былі задзейнічаны сілы і сродкі МНС, а таксама аварыйныя брыгады "Белтрансгаза".

**Алег САКАЛОЎ.**

## Горит электричка

Минская электричка, остановившаяся вечером 22 апреля у станции Блужа, сразу же приковала к себе внимание пассажиров, находящихся на платформе. Из одного вагона валил дым. Опустились токоприемники, и подбежавший машинист стал открывать под вагоном электрощиты. Там было все в порядке — источник дыма находился в другом месте. Машинист сбегал в кабину за огнетушителем, однако очаг возгорания ликвидировать не смог — огнетушитель был один. Попытался забросать тлеющий очаг гравием с путей, но через несколько минут сдался: каменная бомбардировка положительных результатов не дала. Тогда машинист вскочил в кабину, и электричка рванула дальше.

По всей видимости, решение было принято правильное. Движение на осиповичском направлении задерживалось, а очаг возгорания тушить нечем. Через остановку расположена станция Талька, где есть запасной путь и, полагаю, некая аварийно-ремонтная база. Да и потоки воздуха не только пламя раздувают, но и способны его загасить.

Однако возникают вопросы.

Почему на весь состав оказался лишь один огнетушитель? Почему под вагонами нет стационарных систем пожаротушения?

Почему аварийному электропоезду не оказали помощи на станции Блужа? Почему возле вышедшего из графика состава не оказалось должностного лица? Почему руководство Белорусской железной дороги ждет, пока не загорится состав?

Почему нас подвергают опасности?

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

## Автомобиль за... 30 долларов

Я обернулся от грохота за спиной. В метрах 40 от себя увидел, как из врезавшегося в пятиэтажку "Запорожца" вываливаются люди и пытаются вытолкать сие средство передвижения с газона на асфальт.

Однако не успели. Буквально через секунды "террористы-камикадзе" оказались в кругу разъяренных пап и мам, чьи дети играли у подъезда и чьи иномарки стояли у дома. Через мгновение лица насмерть перепуганных юнцов были в крови. Мамы, прижимая к себе чудом оставшихся в живых ребятишек, вопили: "Убить негодяев!".

Назревал "суд Линча". Моя попытка убедить, что убивать нельзя, а надо судить, кончилась тем, что схватили за грудки меня. Спасло появление двух офицеров милиции из ближайшего опорного пункта, прибывших по телефонному вызову жильцов дома.

Появившийся через полчаса гаишник каких-либо замеров тормозного пути и опросов свидетелей проводить не стал. Семеро человек вытащили "стального коня" на асфальт и покатили, а машина ГАИ двинулась следом.

Интересно, какую скорость движения лихого "Запорожца" укажет в протоколе инспектор ГАИ? Если, конечно, вообще станет составлять документ.

Остается добавить, что юный водитель был не только без прав, но и вообще без каких-либо документов, автомобиль — без техпаспорта и номеров. Куплен, по словам владельца, за... 30 долларов.

Нас подстерегает новая опасность — бросовые неисправные машины, за рулем которых сидят безответственные сопляки.

**Никита ПИГУЛЬ.**

КРОПКІ НАД "І"

## Што значыць "Беларусь для беларусаў"?

*Падчас розных мітынгаў, шэсцяў бачыш лозунг "Беларусь для беларусаў". Лукашэнкаўская прапаганда, хапаючыся за гэтыя словы, палохае людзей тым, што, маўляў, апазіцыя хоча вытурыць з краіны ўсіх тых, хто па нацыянальнасці не з'яўляецца беларусам.*

*Ці так гэта?*

**Антон КРАСУЦКІ.**

Вядома ж, не так. Каменціруючы сутнасць лозунга "Беларусь для беларусаў", зімоўскія, казіяткі, новікавы, дудзіновы, азаронкі і ім падобныя зводзяць людзей у зман. І робіцца гэта з адной мэтай — дыскрэдытаваць дэмакратычную апазіцыю, раскалоць грамадства, збіць хвалю шырокага народнага руху, скіраванага супраць шкоднай лукашэнкаўскай палітыкі.

Палітычны змест лозунга "Беларусь для беларусаў" мае антыкаланіяльны сэнс і вырашае пытанне, **каму павінна належаць краіна і хто ў ёй гаспадар**, а не тое, хто ў ёй павінен жыць. У Беларусі, згодна з законам аб грамадзянстве, маюць права жыць усе. Але:

— беларускі ўрад павінен дзейнічаць у інтарэсах грамадзян Беларусі;

— эканоміка, вытворчасць, вынікі працы павінны быць арыентаваны на развіццё Беларусі, на дабрабыт беларускага грамадства.

ПАМЯЦЬ

# Яны ратавалі чалавецтва

*Днямі ў памяшканні Беларускага Таварыства Дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі адбылася цырымонія, прысвечаная Дню катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства. Падчас цырымоніі чацвёра беларусаў былі ўганараваны званнем "Праведнік народаў свету".*

**Даведка "Народнай волі":**

***У часы другой сусветнай вайны загінула 6 мільёнаў яўрэяў. І гэтая лічба была б яшчэ большая, калі б не гераізм простых людзей, якія ратавалі яўрэяў ад нацыстаў.***

***Па ініцыятыве Ізраільскага мемарыяльнага інстытута Катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства "Яд Вашэм" з 1953 года, усім, хто ратаваў яўрэяў, прысуджаецца званне "Праведнік Народаў свету". Спецыяльная камісія пад старшынствам Галоўнага суддзі Вярхоўнага суда Ізраіля вывучае матэрыялы і паказанні сведкаў, на падставе якіх прымаецца рашэнне аб прысваенні гэтага звання. Сёння ў свеце больш за 20 тысяч людзей, уганараваных такім званнем. Амаль 350 з іх жывуць у Беларусі.***

***Упершыню званне "Праведнік народаў свету" ў нашай краіне было прысуджана ў 1993 годзе.***

Гэтыя гісторыі падобныя. Простыя беларусы, рызыкуючы сваім жыццём, ратавалі яўрэяў ад фашысцкіх катаў.

Сёння ніхто не можа назваць дакладную лічбу, узгадаць усіх яўрэяў, якіх удалося выратаваць ад фашыстаў. Як нельга і вызначыць імёны ўсіх беларусаў-збавіцеляў. Але і зараз, праз 56 гадоў як мінула вайна, аб іх гераічным учынку становіцца вядома...

***

Аўраам Гордан жыве ў ЗША. У гады другой сусветнай вайны ён застаўся жыць дзякуючы сям'і Зямчонак, якая хавала яго і ягоных бацькоў ад фашыстаў.

Горданы жылі да вайны ў Віцебскай вобласці. Пасля акупацыі горада былі адпраўлены ў гета, якое праіснавала да 1942 года. Калі фашысты знішчалі гета, Горданам удалося схавацца ў руінах дома. Пяць дзён яны там хаваліся, а потым вырашылі ісці на хутар Гараваткі, дзе жыла сям'я Зямчонкаў.

Каля чатырох тыдняў Горданы хаваліся ў хляве Зямчонкаў. Дачка гаспадароў, Браніслава, калі ішла даіць карову, прыносіла ім ежу, ваду, адзенне. Тым часам сыны Зямчонкаў, Фларыян і Станіслаў, разам з Якавам Горданам выкапалі ў лесе зямлянку, куды і перасяліліся Горданы.

Увесь час Зямчонкі, рызыкуючы жыццём, прыносілі ў зямлянку ўсё неабходнае. Восенню 1943 года Горданы далучыліся да групы яўрэяў, якая хавалася ў лесе, і заставаліся там да канца вайны.

Пасля вайны Горданы эмігрыравалі ў Ізраіль, потым у ЗША. Доўгі час Аўраам Гордан намагаўся адшукаць сваіх збавіцеляў, і толькі ў 1999 годзе яму ўдалося гэта зрабіць...

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Марцін ПЕЛЕДА-ФЛЭКС уручае дыплом і памятны медаль Ніне ДАЎГУЛЕВІЧ.*

Рашэннем спецыяльнай камісіі Ізраільскага мемарыяльнага інстытута катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства "Яд вашэм" Браніславе УРУБЛЕЎСКАЙ-ЗЯМЧОНАК прысвоена ганаровае званне "Праведніка народаў свету".

Дыплом і памятны медаль Браніславе Урублеўскай-Зямчонак уручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Марцін ПЕЛЕДА-ФЛЭКС. "Яўрэйскі народ адчувае асаблівую ўдзячнасць гэтым адважным людзям, — сказаў Марцін ПЕЛЕДА-ФЛЭКС падчас цырымоніі, прысвечанай Дню катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства. — І не толькі мы адны гэта адчуваем. Увесь свет удзячны ім за тое, што сваімі самаахвярнымі ўчынкамі гэтыя людзі выратавалі чалавецтва і пры гэтым захавалі гуманнасць і чалавекалюбства. Для нас вялікі гонар быць сёння побач з гэтымі людзьмі".

Ганаровае званне "Праведніка народаў свету" было прысвоена таксама КРЫСЬКО Ірыне (пасмяротна) і яе сыстры ДАЎГУЛЕВІЧ Ніне, СТАРАВОЙТАВАЙ Надзеі і АНДРОСІКУ АЛЯКСАНДРУ (пасмяротна).

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

***Матэрыял падрыхтаваны пры садзейнічанні пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь.***

